ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 24 17 чэрвеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

(2322)

НА БЕРАГАХ МІЧЫГАНА



Раіса БАРАВІКОВА з нашай зямлячкай Верай РАМУК.

## ХАЙ ЦВІЦЕ МАГНОЛІЯ

Колькі разоў у дзяцінстве я схілялася над школьнай вучнёўскай картай і шукала маленечкую блакітную кропельку з загадкавай назвай — возера Мічыган. На тое былі прычыны. Вельмі даўно, яшчэ ў 1929 годзе, сястра майго дзеда Уладзіміра Малання разам з семнаццацігадовым сынам Аляксандрам паехалі ў няблізкі свет, у далёкі невядомы горад Чыкага, да свайго мужа, які абжываў Амерыку ўжо добры дзесятак гадоў. Гэта была адзіная дзедава сястра, адзіная маміна цётка. І з Амерыкі, колькі сябе помню, прыходзілі і прыходзілі да нас лісты, і не толькі яны... Цёця Малаша, звала яе мама; і плакала над лістамі, і расказвала, што ведала, пра Амерыку. І для мяне ўсё чулася, як казка. Былі няпростыя саракавыя, пяцідзесятыя гады, але ніякая заслона не магла перапыніць, перарваць гэтую нітачку шчымлівай любові. Цётка Малаша марыла хаця б на нейкі кароткі момант прыехаць на Бацькаўшчыну, але мара засталася толькі марай. На пачатку шасцідзесятых гадоў цёткі не стала, і гэтую мару здзейсніў яе сын, дзядзька Саша. Нітачка не абарвалася, наадварот, з кожным годам мацнела. Хрушчоўская адліга прыадчыніла заслону, дзядзька Саша не-не дый прыязджаў на радзіму. У сярэдзіне васьмідзесятых ён прыехаў не адзін, а з жонкай Алжы. Праз колькі гадоў паказаў ён Бацькаўшчыну і сваім дочкам — Джойс і Тані. У мяне ёсць два родныя браты, колькі разоў я лавіла сябе на думцы: а калі б яшчэ і сястра... З сястрою ўсё па-іншаму. І вось адразу, хай сабе і стрыечныя, але дзве сястрычкі, менавіта такія адносіны пачаліся паміж намі. Сваё зрабілі і гены — з Джойс мы вельмі падобныя знешне. Джойс і запрасіла мяне да сябе ў Чыкага, а дзядзька Саша прыслаў запрашэнні маладым сваякам па лініі яго бацькі. Сабраўся даволі вялікі гурт — пяць чалавек. І вось мы ўсе разам у кастрычніку мінулага года ляцім у Чыкага... Цяпер, праз зіму, я час ад часу перабіраю фотаздымкі, зробленыя там, і ў памяці ўсё аднаўляецца ад пачатку...

Гасцінны чыкагскі аэрапорт... Менавіта гасцінны, таму што візы на ўезд нам адкрывалі там на паўгода, хаця ехалі мы толькі на тры тыдні. Але гэта між іншым, усё засланяла сустрэча з роднымі: Джойс, цёткай Алжы, дзядзькам Сашам... Адразу ж з першых слоў усталяваліся тыя сваяцкія адносіны, калі гавораць так, нібыта ніколі і не развітваліся.

Едзем у Вестэрн Спрынгс, адзін з раёнаў Чыкага: там жыве Джойс. Заўважаю, што прырода падобная да нашай, праўда, значна цяплейшае надвор'е. Мы ад'язджалі, у нас ужо бралася на мароз, а там... цёплае сонца, якое бывае на пачатку восені. Яшчэ густыя кроны дрэў, хоць ужо і ўзяліся дзенідзе пазалотай. Вестэрн Спрынгс сустрэў нас нейкім асаблівым хараством, якім веяла ад прыгожых, розных па сваёй архітэктуры прыватных будынкаў, абкружаных зялёнымі газонамі. Нідзе ніводнага плота, хоць бы малюсенькага. У нас пра такія раёны чамусьці гавораць "спальня", а там уяўляецца як маленькі гарадок, неад'емная частка вялікага горада. Тое ж самае можна сказаць і пра Белвуд, дзе жыве дзядзька Саша, але ўсё разам — гэта адзін агромністы горад Чыкага.

Ды вярнуся да Джойс, да яе сям'і. У сястры тры дачкі, тры дзяўчынкі: Кім, Крыс і Саша. Старэйшыя дзве студэнткі, адначасова і працуюць. А малодшая ходзіць у школу. Муж Джойс — Ран, а калі поўна, Рональд Сміт — стаматолаг, мае сваю стаматалагічную клініку, дзе ў адзін з дзён мы будзем мець магчымасць адчуць асалоду... Так, менавіта асалоду, калі табе залечваюць зуб, і з нашай стаматалогіяй тую клініку пакуль параўнаць немагчыма. Ну а дзе ж Таня, другая стрыечная сястра? Праз колькі дзён з Таняй будзем мець размову па тэлефоне. Таня жыве ў Лондане з мужам Эрыкам і маленькай дачкою Лілі. Яе муж Эрык Айдл — вядомы кінаакцёр і рэжысёр, і, як сказаў дзядзька Саша, у Тані вельмі цікавае жыццё.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

СЦЕЖКАМІ "ДЗІКАГА КАПІТАЛІЗМУ"

## "АСЦЯРОЖНА! ПРЫХВАТЫЗАЦЫЯ!", або ЯК ПРЫВАТЫЗАВАЛІ "АЎТАМОТАСЕРВІС І ГАНДАЛЬ"

Гадоў чатыры назад я была сведкай высялення жанчыны з грудным дзіцем са службовай кватэры вайсковай часці. Жанчына тая была звольнена з працы "ў сувязі з нараджэннем дзіцяці". З гэтай прычыны яе і высялялі. Высялялі зімой на вуліцу, з дапамогай салдат той вайсковай часці, дзе яна працавала.

Трэба сказаць, відовішча было не для тых, у каго слабыя нервы. У калясцы крычала дзіця. Наіўная маці кінулася на пошту, каб адбіць тэлеграму Гарбачову. Маладзенькі салдацік родам з Сярэдняй Азіі калыхаў дзіця, якое не супынялася, і сам плакаў. А судовы выканаўца, жанчына, дарэчы, крычала ўслед маці: "Я увезу твоего ребенка! Далеко увезу! В детприемник, в детдом! Ты его долго искать будешь!"

У той час артыкул пра гэту падзею не рызыкнулі надрукаваць ні ў вайсковай газеце, ні ў якой іншай. І вось зараз мне даводзіцца пісаць пра яшчэ адно высяленне, толькі больш буйнога маштабу. Група ўзброеных дубінкамі і газавымі балончыкамі міліцыянераў Кастрычніцкага РАУС высяляла працоўны калектыў мінскага гарадскога прадпрыемства "Аўтамотасервіс і гандаль". Адміністрацыйныя памяшканні вызвалялі з боем: разбівалі дзвярныя праёмы і замкі, выбівалі дзверы, якія потым забівалі і апячатвалі. Калі кіраўнік прадпрыемства паспрабаваў пазваніць па тэлефоне ў высокія інстанцыі, ударам дубінкі тэлефонны апарат быў разбіты. Нарэшце і начальніка, які не пагаджаўся пакінуць памяшканне, дужыя хлопцы проста вынеслі разам з крэслам на вуліцу.

Адбылася гэта "акцыя" 15 красавіка 1993 года ў 14.00 і працягвалася дзве з паловай гадзіны. Кіравала высяленнем зноў-такі жанчына, судовы выканаўца Кастрычніцкага раёна Мінска, якая прозвішча сваё назваць адмовілася. Сапраўды, жанчыны ў нас могуць усё!

Такім чынам ідзе ў нас прыватызацыя, якую людзі адразу трапна назвалі "прыхватызацыяй".

А зараз дзеля аб'ектыўнасці звернемся да дакументаў. Іх у мяне шмат: 26 артыкулаў, і гэта далёка не поўны стос папер, пісьмаў, пастаноў, запытаў і адказаў суда і пракуратуры. Я вымушана карыстацца канцылярскім стылем дакументаў, якія вяліся, вядома ж, на расейскай мове. Дакладнасць перакладу гарантую. Копіі дакументаў пакідаю ў рэдакцыі.

Самы апошні дакумент — ліст да Генеральнага пракурора рэспублікі В.Шаладонава з просьбай "восстановить справедливость, оградить от произвола чиновников и принятых ими решений". У гэтым лісце азначана, што па просьбе працоўных калектываў станцый тэхнічнага абслугоўвання NN 1, 3, 4, якія звярнуліся ў Дзяржмаёмасць РБ яшчэ ў канцы 1991 года, атрыманы дазвол на раздзяржаўленне і прыватызацыю іх шляхам арэнды.

Была створана камісія па раздзелу маёмасці МГП "Аўтамотасервіс і гандаль". Камісія працавала два месяцы, аднак радзяляльны баланс не падпісалі 50 працэнтаў членаў камісіі. Нягледзячы на гэта, акт быў зацверджаны генеральным дырэктарам РБА "БелАСТ" М.Мышкоўскім.

(Заканчэнне на 3-й стар.).




Тры дні Маладзечна жыло першым рэспубліканскім фестывалем песні і паэзіі. Свята атрымалася грандыёзным, было насычана цікавымі конкурсамі, вызначалася разнастайнай праграмай. Адбылося яно на гарадскім стадыёне, дзе пляцоўка для выступленняў была абсталявана выдатнай апаратурай. (Больш падрабязна пра фестываль чытайце на 6-й стар. у матэрыяле "Зоркі ўзыходзяць у Маладзечне").

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЦЭНЫ*

## ТРАШЧЫЦЬ СЯМЕЙНЫ БЮДЖЭТ

**Як паведаміў Белінфарм, урадам Беларусі прынята рашэнне павысіць з 1 чэрвеня 1993 года тарыфы за карыстанне водаправодам і каналізацыяй у 4 разы, тарыфы на цеплавую энергію для ацяплення і гарачага водазабеспячэння ў 5 разоў і на электраэнергію — у 3 разы.**

**У сферы рознічных цэн калегія Дзяржэканомплана Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Беларускай канфедэрацыяй прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў прынята рашэнне перайсці з 5 чэрвеня 1993 года да прымянення свабодных рознічных цэн на ялавічыну, свініну, вараныя каўбасныя вырабы, паўфабрыкаты мясныя і масла.**

**Цэны вырастуць: на ялавічыну ў 1,7 раза, свініну, вараныя каўбасныя вырабы ў 1,3, мясныя паўфабрыкаты ў сярэднім у 1,7 раза і масла ў 1,8 раза.**

**Адначасова павышаюцца рознічныя цэны на малако і малочнакіслыя прадукты, дзіцячыя малочныя сумесі ў 2 разы, на мясныя дзіцячыя кансервы ў 3 разы.**

**Без змянення застаюцца рознічныя цэны на хлеб і хлебабулачныя вырабы, уключаючы дыетычныя, а таксама будуць па-ранейшаму рэгулявацца дзяржавай цэны на малако, малочнакіслыя прадукты, дзіцячае малочнае і мясное харчаванне за кошт захавання датавання іх з бюджэту.**

*РАЗМІНІРАВАННЕ*



**Па рашэнню ўрада прынята дзяржаўная праграма па разміціраванню ў Рэспубліцы Беларусь, якая разлічана на 4 гады. З гэтай мэтай створана спецыяльная рота мінёраў з 200 чалавек. Першая аперацыя па разміціраванню і ачыстцы тэрыторыі ад выбухованебяспечных прадметаў праводзіцца на тэрыторыі Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці, дзе з часоў апошняй вайны засталіся цэлыя мінныя палі. Толькі за адзін дзень тут абясшкоджана і знішчана 12 артылерыйскіх снарадаў, 12 мінамётных мін, 63 ручныя гранаты, 800 патронаў. Зону разміціравання наведаў Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч.**

**НА ЗДЫМКУ: Вячаслаў КЕБІЧ аглядае небяспечныя знаходкі сапёраў.**

*ПАЗІЦЫЯ ПРАФСАЮЗАЎ*

## КАЛІ ВЫЙДУЦЬ НА ПЛОШЧЫ

**Каменцірууючы ўвядзенне свабодных цэн на прадукты харчавання, а таксама павелічэнне платы за камунальныя паслугі ў 4—5 разоў, старшыня Свабоднага прафсаюза Беларусі Генадзь Быкаў сказаў, што рашэнне Вярхоўнага Савета аб спісанні 87-мільярднай запазычанасці з калгасаў і саўгасаў прадвызначыла лібералізацыю цэн на прадукты харчавання. На яго думку, гэтыя мільярды маглі аказацца "ў кішэнях маламаёмасных, а не на рахунках камерцыйных структур, якія займаліся экспартам датуемых прадуктаў харчавання ў краіны блізкага замежжа".**

**Таму рашэнне аб лібералізацыі цэн ураду трэба было прымаць раней, а не ствараць выгляд сацыяльнай абароненасці, калі прадукты харчавання ў нас каштавалі менш, чым у суседніх краінах. "Калі людзі зноў выйдуць на плошчу перад парламентам, як гэта было ў красавіку 1991 года, гэтаму парламенту трэба будзе саступіць месца новаму", — лічыць Генадзь Быкаў.**

*"Патрабаванні прафсаюзаў установіць узровень мінімальнай зарплаты на ўзроўні спажывецкай карзіны належаць да фантастыкі. Мінімальная зарплата ўстаноўлена, зыходзячы з рэальных магчымасцей. А яны такія, што карзіну немагчыма забяспечыць. Таму ўрад друкуе дадаткова грошы. Гэтым мы падштурхоўваем інфляцыю і зноў рухаем угару цэны.*

*Але паглядзім на рост цэн. Калі вымяраць іх у золаце ці доларах, то асобага росту мы не ўбачым. Цэны дасягнулі паталка і стаяць на месцы. Іншая справа, калі мы вымяраем цэны ў рублях, якіх мы ўсё больш друкуем. Таму адначасова адбываецца зніжэнне курсу рубля ў адносінах да цвёрдай валюты. Не цана расце, хоць гэта і выглядае менавіта як рост цэн у рублях, а падае курс рубля. Адным словам, нам проста прыходзіцца ўсё больш і больш рублёў аддаваць за тую ж цану".*

*Аляксандр САСНОЎ, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва.*

*ГАНАРОВЫ ЧЛЕН ІНСТЫТУТА*

## М. БЕЛЯМУК — ТРЭЦІ

**Вучоны савет Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі абраў ганаровым членам Міхася Белямука, нашага суайчынніка са Злучаных Штатаў Амерыкі. Ён першым з беларусаў-эмігрантаў удастоены такога звання.**

**Згодна са статутам інстытута, ганаровымі членамі могуць стаць даследчыкі беларускай гісторыі (якія не працуюць у інстытуце) за іх важкі навуковы ўклад. Міхась Белямук асабліва вядомы як спецыяліст па беларускай нумізматыцы і пячатках. У пачатку гэтага года падчас свайго візіту ў Мінск ён выступіў з дакладам па гэтай тэматыцы на вучоным савеце Інстытута гісторыі. "Фактычна гэта адзіны ў свеце спецыяліст па ранніх беларускіх пячатках", — гаворыць член вучонага савета інстытута Міхась Чарняўскі.**

**Усяго ж ганаровымі членамі Інстытута гісторыі Акадэміі навук на сённяшні дзень абраны тры замежныя грамадзяніна: акрамя М.Белямука, англійскі беларусіст Дзінглі і Анджэй Цеханавецкі.**

*НА ЗДАРОЎЕ*

## 20 ДОЛАРАЎ У ГОД

**Паводле праекта закона "Аб ахове здароўя", які вынесены на разгляд дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, на 1993 год доля расходаў на ахову здароўя ў працэнтах ад валавога нацыянальнага прадукта павінна складаці 7,9.**

**Для параўнання: у ЗША гэты паказчык складае 13 працэнтаў, у Францыі — 9,4. Але больш паказальныя гэтыя лічбы ў пераліку на долары ЗША. У Злучаных Штатах на аднаго грамадзяніна ў год выдаткоўваецца 1 926 долараў, у Францыі — 1 072. У Беларусі ж, калі будзе зацверджаны названы паказчык, — 20.**

*ДОМ МАЛІТВЫ*

## ТАКІХ БОЛЬШ НЯМА

**Вялікая колькасць веруючых з Кобрына і суседніх раёнаў, гасцей з ЗША, Германіі, Швецыі, Польшчы і іншых краін сабраліся ў райцэнтры пры адкрыцці і ўрачыстым асвячэнні Дома малітвы евангельскіх хрысціян-баптыстаў.**

**Брэсцкі архітэктар Аляксей Андраюк прапанаваў настолькі арыгінальны праект, што ён аказаўся самым лепшым на ўсёй тэрыторыі былога Саюза.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

СЯРОД так званых "камерцыйных турыстаў", якія ў мінулым годзе наведалі Польшчу з мэтай грабяжу сваіх суграмадзян, самымі агрэсіўнымі лічацца рускія. Яны ўчыняюць 51,9 працэнта ўсіх злачынстваў. Украінцы займаюць другую прыступку — 20 працэнтаў, а беларусы толькі 3,9 працэнта.

У РЭСПУБЛІКАНСКУЮ пракуратуру былі выкліканы аглядальнік газеты "Советская Белоруссия" Людміла Маслюкова і рэдактар газеты "Мы и время", сустаршыня Партыі камуністаў Беларусі Віктар Чыкін. Ім было ўказана на недапушчальнасць публікацый, у якіх ёсць непаважлівыя адносіны да дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь.

ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ камісіі БНФ па культуры і гісторыі створаны Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванню 200-х угодкаў Вызваленчага паўстання 1794 года на Беларусі. У складзе аргкамітэта, акрамя БНФ, — Таварыства беларускай мовы, Згуртаванне беларускай шляхты, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Акадэміі навук Рэспублікі і іншыя ўстановы і грамадскія арганізацыі.

У МІНСКУ зараз налічваецца 7 тысяч легкавых аўтамабіляў замежных марак. Самыя папулярныя — "Мерседэс" і "Вольва". Праўда, у пераважнай большасці не новыя, а тыя, што былі ва ўжытку, але добра падрамантаваныя. Штодня мінчане набываюць 30—40 машын замежнай вытворчасці.

40 ТЫСЯЧ рублёў — гэта мінімальны кошт сёлетняга школьнага выпускнога балю. Менавіта ў такую "капейчыну" абыдуцца бацькам кожнага выпускніка чаравічкі і сукенкі для дзяўчат, касцюмы і гальштукі для хлопцаў, фатаграфіі для альбома, "салодкі стол" з шампанскім.

НА ТЭРЫТОРЫІ Польшчы загінуў начальнік Ленінскага раённага аддзела міліцыі горада Мінска падпалкоўнік Мікалай Ільючык. Як паведаміла прэс-служба МУС Беларусі, ён быў у Польшчы ў прыватнай паездцы і стаў ахвярай злачынства.

ТРЫЦЦАЦЬ юнакоў і дзяўчат Оршы атрымалі з пачатку года дазвол на зніжэнне шлюбнага ўзросту з законных 18 да 17, 16 гадоў. Аднак гэты факт ні бацькоў, ні грамадства не радуе. Асноўная прычына "маладых" шлюбаў — раннія палавыя сувязі. Як правіла, разам з заявай маладыя прыносяць даведку аб цяжарнасці.

*КІНАСТУЖКА*

## БЕЛАРУСКАЯ АМЕРЫКА

**Першы дакументальны фільм пра беларусаў-эмігрантаў зняты незалежнай відэастудыяй "РэсТВ". Рэжысёр — Віктар Шавялевіч, аператар — Валерый Булдык. Называецца стужка "Беларусы, што жывуць у Амерыцы". Зараз адна копія накіравана ў Кліўленд, дзе ў асноўным вяліся здымкі. Чакаецца, што фільм будзе куплены тамтэйшым тэлебачаннем.**

**— Мы хацелі не проста паказаць нашых суайчыннікаў з далёкага кантынента, — расказвае кіраўнік відэастудыі Ірына Дварнічэнка, — але і высвеліць, як іншая культура паўздзейнічала на культуру беларусаў-эмігрантаў і якой захавалі яны нашу беларускую культуру ва ўмовах свабоднага дэмакратычнага грамадства.**

**Зараз у планах відэастудыі — здымкі па заказу Міністэрства замежных спраў рэспублікі відэастужкі пра беларусаў Англіі і па асабістай ініцыятыве — пра нашых суайчыннікаў у Францыі.**

*ПЕРАСЯЛЕНЦЫ*

**Шматнацыянальным становіцца пасёлак Холмеч Рэчыцкага раёна. Своеасаблівы росквіт цэнтральнай сядзібы калгаса "Іскра" пачаўся пасля аварыі на ЧАЭС. У Холмечы разгарнулася будаўніцтва жылля для перасяленцаў, узводзяцца аб'екты культурна-бытавога і вытворчага прызначэння. Але не толькі "чарнобыльцы" пасяляюцца тут. Людзі з многіх гарачых пунктаў былога Саюза знаходзяць тут працу і прытулак. Жывуць па законах дружбы і брацтва, сумеснымі намаганнямі ператвараюць "Іскру" ў буйнейшую садаводчую гаспадарку рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКУ: новабудоўлі пасёлка Холмеч.**



## ВЕРНУТАЕ ЗДАРОЎЕ



**З дапамогай скальпеля вяртаюць сваім пацыентам радасць жыцця спецыялісты аддзялення хірургічнага лячэння складаных парушэнняў рытму сэрца чацвёртай клінічнай бальніцы Мінска. На базе аддзялення дзейнічае Рэспубліканскі цэнтр электракардыёстымуляцыі. Высокакваліфікаваныя ўрачы ажыццяўляюць тут да 15 аперацый у тыдзень. Гэта адзіная ў рэспубліцы медыцынская ўстанова, дзе для лячэння брадыкардыі выкарыстоўваецца айчынны электракардыястымулятар, які ўшываецца ў цела хворага. Няўмольная статыстыка канстатуе, што амаль кожны другі памірае ў нашай рэспубліцы ад сардэчна-сасудзістых захворванняў, а кожны чацвёрты па той жа прычыне становіцца інвалідам. Своечасовая дыягностыка, выяўленне ў ранняй стадыі парушэнняў рытму сэрца і іншых адхіленняў ад нормы дазваляюць лячыць гэтыя хваробы, у тым ліку і хірургічным метадам, больш паспяхова.**

**НА ЗДЫМКАХ: урачы-рэнтгенолагі Мікалай ЦІЛІ (злева) і Ігар ГРЫБКОЎ вывучаюць здымкі; так выглядае айчынны электракардыястымулятар (ЭКС).**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**



## І БОГА НЕ БАЯЦЦА

У пагоні нажыцца за кошт продажу выкрадзеных дэфіцытных сёння каляровых металаў злачынцы губляюць апошняе сумленне, ідуць нават на апаганьванне святынь. Прыкладам таму служаць два факты, якія адбыліся ў Жлобіне амаль у адзін і той жа дзень. У першым выпадку невядомыя злачынцы апаганілі крыж, узнесены ўсяго некалькі месяцаў таму вернікамі над адрамантаванай каталіцкай капліцай. Той, хто ўзяў на сваю душу такі вялікі грэх, наўрад ці думаў гэтым актам вандалізму дасягнуць нейкіх палітычных мэт. Справа выглядае куды прасцей. Вельмі ж спакуслівай прынадай для нядобрага вока было паўтараметровае металічнае распяцце.

Дасталася ад злачынцаў і мясцовай праваслаўнай абшчыне. На будаўнічай пляцоўцы, дзе зараз узводзіцца новая царква, ноччу быў перапілаваны і выкрадзены кабель, які забяспечваў падачу электраэнергіі пад"ёмнаму крану. У выніку пад пагрозай аказаліся тэрміны заканчэння распачатай будоўлі. Кран бяздзейнічаў некалькі тыдняў. І толькі дзякуючы вялікім намаганням благачыннага жлобінскай акругі айца Васілія (Пілiпенкі) сітуацыю ўдалося выправіць. Зразумела, былі прыняты і адпаведныя меры па недапушчэнню падобных выпадкаў у далейшым. Католікі ж пакуль не рызыкуюць аднаўляць металічнае распяцце, а замянілі яго пластмасавым.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

# "АСЦЯРОЖНА! ПРЫХВАТЫЗАЦЫЯ!", або ЯК ПРЫВАТЫЗАВАЛІ "АЎТАМОТАСЕРВІС І ГАНДАЛЬ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

8 мая мінулага года была створана новая камісія па раздзелу маёмасці, якая прыйшла да высновы, што папярэдні, названы вышэй, раздзяляльны баланс з'яўляецца няправільным.

Калі камісія па раздзелу маёмасці ўжо завяршала сваю работу, Дзяржмаёмасцю была папраўлена першапачатковая заяўка калектываў станцый тэхабслугоўвання NN 1, 3, 4 і вынесена другое, ужо зусім іншае рашэнне: "Ажыццявіць раздзяржаўленне і прыватызацыю шляхам выкупу маёмасці". Такім чынам, уступае ў сілу загад Дзяржмаёмасці N 124 ад 1 лістапада 1991 года і дадатку N 1 "Палажэння аб камісіі па прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці". Менавіта гэты загад Дзяржмаёмасці і быў парушаны ў працэсе прыватызацыі названых вышэй станцый тэхабслугоўвання.

Палова членаў створанай камісіі па раздзелу маёмасці МГП "Аўтамотасервіс і гандаль" не падпісалі раздзяляльны баланс, аднак менавіта яго Дзяржмаёмасць прыняла за аснову ў далейшай рабоце па прыватызацыі.

Абураныя відавочнай несправядлівасцю, работнікі двух магазінаў і комплексу па рамонту і захаванню транспартных сродкаў звярнуліся з афіцыйным пісьмом да старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі У.Ганчарыка і да народнага дэпутата Беларусі В.Новікава. Аднак, відаць, важныя дзяржаўныя справы не далі ім магчымасці не толькі прыпыніць "прыхватызацыю", але і адказаць на калектыўную скаргу, пад якою паставілі свае подпісы больш чым 150 чалавек.

Больш таго, у працэсе вывучэння прадастаўленых мне дакументаў я звярнула ўвагу на той факт, што працэсам прыватызацыі гэтага калектыву кіравала вельмі ўмелая і спрактыкаваная рука. Да прыкладу, пісьмо старшыні Дзяржмаёмасці В.Мацюшэўскага за N 01-01/18 ад 08.01.1992 г., накіраванае ў Савет Міністраў рэспублікі з просьбай "дать право Госимуществу поручить ПО "Белавтомотосервису" в кратчайший срок произвести разделение имущества", было літаральна ў гэты ж дзень, 08.01.1992 г., без аналізу сітуацыі і тэхніка-эканамічнага абгрунтавання завізіравана, і справа "прыхватызацыі" атрымала "зялёнае святло". Гэта ж проста касмічная аператыўнасць! Нешта нечуванае ў наш час, калі на пэўны запыт можна і не дачакацца адказу. А тут "дабро" ў вышэйшых інстанцыях атрымана за адзін дзень.

Яшчэ цікавы факт: прадпрыемствы МГП "Аўтамотасервіс і гандаль" не былі ўключаны ў пералік прыватызуемых у 1992 годзе аб'ектаў. Тым не менш дазвол на прыватызацыю быў атрыманы ў снежні 1991 года. У спісы прыватызуемых аб'ектаў прадпрыемства трапіла толькі ў канцы сакавіка 1992 года, калі злашчасны раздзяляльны баланс быў ужо падпісаны і зацверджаны.

І з гэтага часу пачынаюцца судовыя справы паміж мінскім гарадскім прадпрыемствам "Аўтамотасервіс і гандаль" і вытворчым камерцыйным прадпрыемствам "Аўтасервіс і гандаль", па якіх суд то выносіць рашэнне аб высяленні, то высяленне прыпыняе.

Самае цікавае ў гэтай справе для мяне — сама маёмасць прадпрыемства і ацэнка яе. У канцы мінулага года МГП "Аўтамотасервіс і гандаль" мела тры станцыі тэхнічнага абслугоўвання, два аўтамагазіны, комплекс па захаванню і рамонту транспартных сродкаў. У самім комплексе было 10 філіялаў па рамонту аўтамабіляў і вялізны гараж, што месціцца каля Чэрвеньскага рынку ў Мінску. Зусім нядаўна пабудаваны фізкультурна-аздараўленчы комплекс з лазняй-саунай, басейнам. Меліся склады з матэрыяламі, стаянкі для транспарту і машыны, адміністрацыйныя будынкі і больш за 2 гектары тэрыторыі.

У склад камісіі па раздзелу маёмасці не былі ўключаны прадстаўнікі Дзяржкамітэта па прамысловасці і прадстаўнікі Мінгарвыканкома ці Кастрычніцкага выканкома Мінска, на тэрыторыі якога знаходзіцца прыватызуемае прадпрыемства.

Згодна з дакументам, "прыватызавана" частка адміністрацыйнага корпуса плошчай 300 квадратных метраў, два склады — жалезабетонны і цагляны, аўтамабіль МАЗ, будынкі фізкультурна-аздараўленчага комплексу, дыягнастычнай лабараторыі і сталярнай майстэрні, тры электронна-вылічальныя машыны ПЭВМ.

І колькі, вы думаеце, усё гэта багацце каштуе? Згодна з дакументам, пералічаная маёмасць ацэнена ў 9 мільёнаў 354 тысячы 516 рублёў. Ацэнка праходзіла ў пачатку мінулага года.

На той час, калі адбывалася прыватызацыя, толькі адна станцыя тэхабслугоўвання ацэньвалася ў 36 мільёнаў рублёў. А дзве з трох прыватызуемых станцый былі пабудаваны замежнымі спецыялістамі за валюту. Зараз прадпрыемства, якое не пагаджаецца з такой "прыватызацыяй", плаціць падатак толькі за разгляд у судах кожны раз амаль мільён, ці 10 працэнтаў ад кошту маёмасці. Разглядалася ж справа Гаспадарчым судом Мінскай вобласці, Вышэйшым гаспадарчым судом рэспублікі шэсць разоў. Тройчы рашэнне аб высяленні, вынесенае Мінскім абласным судом, прыпынялася Вышэйшым гаспадарчым судом Рэспублікі Беларусь.

І ўсё ж высяленне адбылося. 150 рабочых не маюць права карыстацца за іх грошы пабудаваным фізкультурна-аздараўленчым комплексам, няма дзе размясціць матэрыяльныя каштоўнасці больш чым на 10 мільёнаў рублёў, якія вывезены з прыватызаваных складаў, засталіся без працы галоўны бухгалтар, касір і інжынеры — усяго 18 чалавек адміністрацыйных работнікаў.

Праўда, згодна з загадам кіраўніцтва фірмы "БелАСТ" работнікам "рэпрэсіраванага" прадпрыемства нядаўна выдзелена ў другім канцы горада памяшканне плошчай 12 квадратных метраў для васемнаццаці чалавек.

Не толькі ў мяне выклікалі неўразуменне два адказы адной і той жа ўстановы — Пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Абодва напісаны ў сакавіку мінулага года. Першы, датаваны 12 сакавіка, падпісаны намеснікам Генеральнага пракурора І.Сашчэкам, паведамляе, што "работа камісіі па прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці прыпыняецца да прыняцця адпаведнага заканадаўчага акта Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь". У сувязі з тым, што МГП "Аўтамотасервіс і гандаль" аднесена да камунальнай уласнасці, Пракуратура накіравала пісьмо ў Мінгарвыканком і Дзяржмаёмасць РБ, у якім прапанавала прыняць меры да захавання маёмасці названага прадпрыемства і забеспячэння законнасці пры рашэнні пытанняў прыватызацыі дадзенага аб'екта.

Аднак праз тыдзень гэтае мудрае рашэнне поўнасцю перакрэсліваецца другім лістом з той жа Пракуратуры за подпісам в.а. Генеральнага пракурора Кандрацьева. У дакуменце адзначаецца літаральна наступнае: "Прымаючы да ўвагі, што падрыхтоўчая работа па прыватызацыі станцый тэхабслугоўваня NN 1, 3, 4 завершана, паміж Мінгарвыканкомам і Дзяржмаёмасцю адрэгулявана спрэчка аб уласнасці на ўказаныя аб'екты, а таксама тыя абставіны, што станцыі выкупляюцца працоўнымі калектывамі, Пракуратура РБ не знаходзіць падстаў для прыпынення прыватызацыі названых аб'ектаў".

Дык каму верыць? Вось дзе сапраўды правая рука не ведае, што робіць левая!

Я зноў і зноў пераглядаю, вывучаю шматлікія дакументы. З іх вынікае, што толькі на прыватызацыі пералічаных аб'ектаў рэспубліка страціла больш чым 72 мільёны рублёў. Каму гэта выгадна? У чые кішэні яны трапілі? І хто застанецца ўласнікам станцый тэхнічнага абслугоўвання? Справа ў тым, што з моманту выкупу маёмасці трэцяя частка працуючых або звольнена, або звольніліся самі. Новых людзей з боку прымаюць на працу толькі па дагавору на нейкі час. А кіраўніцтва да гэтай пары яшчэ не распрацавала Палажэнне аб долевым удзеле кожнага члена калектыву ў выкупленай маёмасці. Такім чынам, кола будучых уласнікаў з кожным днём звужаецца.

Днямі калектыў прадпрыемства звярнуўся да Генеральнага пракурора рэспублікі В.Шаладонава. "Хаджэнне па пакутах" працягваецца.

Падчас падрыхтоўкі гэтага матэрыялу мне трапіў на вочы яшчэ адзін факт "прыхватызацыі" ў Пружанскім раёне, дзе "прададзена" база "Чэпелеўскае багно" малому прадпрыемству "Крыніца". Куплены механічныя майстэрні, два склады, два гаражы, канюшня, лазня, ФАП, магазін, два васьмікватэрныя і двухкватэрныя жылыя дамы, адміністрацыйны будынак, воданапорная вежа і сад ды ў дадатак да іх 18 гектараў зямлі. Куплена ўсё пералічанае за 301 тысячу 334 рублі. Сапраўдная "здзелка веку"! У багне забіла залатая крыніца. Цяпер мяне ўжо не здзівіць ніякая прыхватызацыя.

Аднак такая дармаўшчына, раздача дзяржаўнай маёмасці дэмаралізуе грамадства, правакуе да лёгкай нажывы, нараджае жаданне будаваць свой дабрабыт на чужым горы. Усе гэтыя аспекты неабходна ўлічваць пры распрацоўцы заканадаўчых актаў, якія маюць дачыненне да раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці.

На 12-й сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая праходзіць цяпер, разглядаецца шэраг законаў, якія павінны наладзіць працэс прыватызацыі і раздзяржаўлення дзяржаўнай маёмасці, накіраваць іх у цывілізаванае рэчышча, прыпыніць беззаконне.

На аснове Закона Рэспублікі Беларусь "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь" падрыхтаваны ўжо праекты Дзяржаўнай праграмы прыватызацыі і Праграмы прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, на 1993 год.

Дзяржаўнай праграмай прыватызацыі прадугледжваецца да канца 1993 года рэфармаваць не меней 10 працэнтаў кошту асноўных фондаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці і падлягаюць прыватызацыі, у тым ліку па аб'ектах гандлю і бытавога абслугоўвання — 15—18 працэнтаў.

Праект Праграмы прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, на 1993 год больш канкрэтызаваны па маштабах і асаблівасцях рэфармавання ўласнасці ў асобных галінах народнай гаспадаркі, умовах прыцягнення замежных інвестараў, а таксама ўтрымлівае пералік прадпрыемстваў, якія падлягаюць прыватызацыі ў бягучым годзе.

Пасля дапрацоўкі Праект Дзяржаўнай праграмы прыватызацыі будзе прадстаўлены на зацвярджэнне ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

Распрацоўка новых і ўдакладненне дзеючых заканадаўчых і іншых нарматыўных актаў павінна ісці на адзінай канцэптуальнай аснове, якая выключае супярэчлівыя рашэнні і якая адэкватна задачам эфектыўнага дзяржаўнага стымулявання дзелавой актыўнасці.

**Галіна АГАЛАКАВА.**

## З ГІСТОРЫІ ЧАРНОБЫЛЬСКІХ ВЁСАК

# КАЗАЦКІЯ БАЛСУНЫ

**(ШЧЫЛЬНАСЦЬ ЗАБРУДЖАННЯ ЦЭЗІЕМ-137 СКЛАДАЕ 5,20 КЮРЫ НА КВАДРАТНЫ КІЛАМЕТР)**

Тэма папярэдняга артыкула атрымлівае цікавы працяг у сувязі з гісторыяй узнікнення вёскі Казацкія Балсуны (Веткаўскі раён), адной з самых нязвычных менавіта сваім далёкім мінулым вёсак, размешчаных у парэччы Бесядзі.

У вёсцы Стаўбун Веткаўскага раёна (размешчана на паўднёвы ўсход ад Казацкіх Балсуноў) запісана наступнае паданне: у царстваванне Мікалая Першага з Дона збеглі тры казакі. Звалі іх Стаўбун, Балсун і Неглюб. Яны быццам бы заснавалі тры вёскі, якія атрымалі адпаведна назвы **Стаўбун, Казацкія Балсуны** і **Неглюбка**. Ёсць у нашай картатэцы і трохі іншы варыянт падання. У лясную мясцовасць, дзе дагэтуль ніхто не жыў, прыбыў атрад казакоў на чале з атаманам **Балсуном, ці Болсунам**. Казакі заснавалі сярод лесу паселішча, якое стала называцца Казацкімі Балсунамі.

Старажылы вёскі паведамляюць яшчэ шэраг цікавых фактаў. Так, у Казацкіх Балсунах ёсць месца, якое называюць **Селішча**. Лічаць, што менавіта тут і пасяліліся казакі, калі прыйшлі ў данае месца. За Селішчам, уздоўж ракі Бесядзь, па гары, ішоў насыпны вал, які для казакоў мог служыць абарончым збудаваннем. У 1933 годзе ў час небывалай паводкі быў змыты так званы **Гарадок** — вялікая гара над Бесяддзю. Гара была штучнага паходжання, і, відаць, з ёю і быў звязаны нагаданы абарончы вал.

У дакументах, якія вяліся ў вёсцы да рэвалюцыі, быццам бы ставілі спецыяльную адзнаку, якая сведчыла аб "казацкім" ці, наадварот, "неказацкім" паходжанні чалавека.

У атамана Балсуна (Болсуна), згодна з паданнем, былі два памочнікі — **Фесь** і **Сцяпыка**. Ад Феся пайшло прозвішча **Фяськоў**, а ад Сцяпыкі — **Сцяпыка**. Першае дагэтуль існуе ў Казацкіх Балсунах. А вось носьбітаў другога прозвішча ўжо няма, хоць у мінулым яно было вельмі распаўсюджаным. Аб гэтым сведчыць вуліца Сцяпыкіна, якая існавала да 1929 года ў вёсцы, калі было праведзена землеўпарадкаванне, у выніку чаго многія старыя вуліцы зніклі. Адзначым, што імя **Фесь** з'яўляецца ўсечанай, скарочанай формай поўнага імя **Феакціст**, а мянушка **Сцяпыка** ўзыходзіць да імя **Сцяпан**.

Усе адзначаныя факты як легендарныя, так і рэальныя, хоць яны і цікавыя, і вартыя таго, каб быць запісанымі ў летапісе вёскі, тым не менш не могуць служыць рашаючым доказам "казацкага" паходжання вёскі Казацкія Балсуны. Але існуюць яшчэ красамоўныя, хоць і ўскосныя, факты, якія пэўным чынам падтрымліваюць рэальнасць версіі аб "казаках" на Бесядзі.

Адным з галоўных ускосных фактаў, аб якіх ідзе гаворка, з'яўляецца геаграфічная назва **Нямкі**. Яе носяць дзве суседнія з Казацкімі Балсунамі вёскі — **Вялікія** і **Малыя Нямкі**. Назва Нямкі ўтварылася ад калектыўнай мянушкі **нямкі**, якая датычылася ўсяго першапачатковага насельніцтва гэтых паселішчаў (дакладней, жыхароў аднаго з іх, менавіта Вялікіх Нямкоў, бо Нямкі Малыя, як можна меркаваць, узніклі пазней, ужо як выселкі з Вялікіх Нямкоў; адзначым, што абедзве гэтыя вёскі размешчаны ў мясцовасці, дзе шчыльнасць забруджання цэзіем-137 складае для Вялікіх Нямкоў — звыш 5 кюры на квадратны кіламетр, для Малых Нямкоў — 5,10 кюры на квадратны кіламетр; акрамя таго, у ваколіцах Малых Нямкоў ёсць вельмі небяспечныя плямы стронцыю-90 — 0,12 кюры на квадратны кіламетр). Мянушка **Нямкі** ўказвала на тых людзей, якія адрозніваліся ў нейкай ступені асаблівасцямі мовы, пра якіх маглі сказаць: "Гэта — нямкі. Яны гавораць не так, як мы, неяк незразумела, невыразна". Жыхары ж суседніх вёсак у адказ на пытанне аб тым, хто жыве побач з імі, гаварылі прыкладна так: "Там жывуць нямкі". Так і пайшло: "Нямкі, нямкі..." Праз некаторы час мянушка ператварылася ў назву паселішча.

Існаванне геаграфічнай назвы **Нямкі**, такім чынам, указвае, што ў данай мяс-

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

# ХАЙ ЦВІЦЕ МАГНОЛІЯ

Ну а што ж далей? Вядома, у невялікім артыкуле немагчыма апісаць усё дзень за днём, што гаварылася, што адбывалася, дый ці трэба? Скажу адно, што праз некалькі дзён і ў сям'і Джойс, і ў дзядзькавым доме мы адчувалі сябе, як дома. Акружаныя любоўю, а да яе яшчэ трэба дадаць і ўвагу дзядзькавых сыноў Грэга і Марка, мы пачыналі сваё знаёмства з Амерыкай... І я раскажу пра самае значнае для мяне, што асабліва ўразіла, што запомнілася і нязменна жыве ў памяці. Гэта, вядома, сустрэчы, і непрадбачаныя, і тыя, якіх чакала.

У Чыкага жыве шмат беларусаў... У розныя часы пакінулі яны Бацькаўшчыну, але сэрцам і душою заўсёды з ёю. Добра мы пачувалі сябе і ў доме Вольгі Крук, якая нарадзілася ў Амерыцы, але бацькі яе, можна сказаць, з нашай вёскі, якую пакінулі яны таксама ў дваццатыя гады. Вельмі сардэчнай была гасціннасць Валянціны Бабені і спадарыні Жэні, якая родам з-пад Івацэвічаў... І, бадай, самая незабыўная старонка сярод гэтых сустрэч — сустрэча са спадарыняй Верай Рамук і яе мужам спадаром Вітаўтам Рамуком.

Тэлефон спадарыні Веры мне даў у Мінску паэт Сяргей Панізьнік, і вось у адзін з вечароў набіраю гэты тэлефонны нумар... Чую лагодны жаночы голас, нейкі асаблівы водар нашай мовы, адразу ж дамаўляемся са спадарыняй Верай аб сустрэчы... Была якраз добрая нагода: 23 кастрычніка ў Чыкага адзначаліся 47-я ўгодкі заснавання Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Там, у будынку Дэпартамента штата Ілінойс, мы і сустрэліся...

Чамусьці наварочваліся слёзы, калі бачыўся сярод іншых 55-ці наш бел-чырвона-белы сцяг... Вось мы і вядомыя ў свеце, і Беларусь нашу пералічваюць на тых угодках адной з першых дзяржаў! Ну як не расплакацца эмацыянальнай паэтэсе! У тым, што адбывалася ў той дзень, была вялікая заслуга спадарыні Веры, ды і хіба толькі ў той дзень! У Амерыцы яна жыве з 1949 года, а Вітаўт — з 1956. І ўсе наступныя гады іх жыццё было дзеля Беларусі, дзеля яе вядомасці ў свеце. Быў такі цікавы момант у жыцці спадарыні Веры. У 1955 годзе яна брала амерыканскае грамадзянства, і трэба было напісаць нацыянальнасць. Ну якія могуць быць гаворкі, вядома ж, беларуска. Але ёй сказалі: мусіце запісацца польскай ці расейскай нацыянальнасці. Што яна робіць? Садзіцца і піша ліст да Прэзідэнта Эйзенхаўэра... І дамаглася свайго: запісалі беларускай. Высока нясе спадарыня Вера сваю нацыянальную годнасць праз гады... Гэта дзякуючы ёй, з 1967 года, у Дзень 25 Сакавіка вывешваецца ў Чыкага перад гарадской управай бел-чырвона-белы сцяг зямлі беларускай... А якія выстаўкі штогод арганізоўвае яна, з якой любоўю паказвае свету, на якое высокае мастацтва здольныя беларусы: тут і наша ткацтва, і саломка, і вышыванкі, і ручнікі... Усё, чым славяцца нашы народныя майстры. Аб гэтым мы гаварылі праз тыдзень ва ўтульным дамку спадарыні Веры, куды я была гасцінна запрошана, дзе давялося заначаваць, таму што і Вера, і Вітаўт спланавалі для мяне цэлую праграму.

Вечарам таго ж дня мы разам наведалі сясцёр Людвіку Бяленіс і Ірэну Пануцэвіч. Гэта дочкі Эдуарда Адамавіча Будзькі, беларускага паэта, пра якога ёсць звесткі ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі. Але там ёсць памылка: маўляў, памёр у Канадзе. На самай жа справе ён жыў у Чыкага і якіх дачок і сына выгадаваў! Якая адданасць роднай зямлі жыве ў сэрцах гэтых слаўных жанчын, якія ў іх руплівыя рукі!.. Колькі дзівосных вышыванак было паказана мне ў той вечар, якія ні з чым непараўнальныя ўзоры! Сапраўдная беларуская мастачка спадарыня Людвіка Бяленіс жыве ў Чыкага. "І як было б добра, каб, скажам, у Мінску была арганізавана яе выстаўка", — падумалася мне тады. А час не чакаў... Наперадзе ў нас была вечарына, прысвечаная амерыканскаму традыцыйнаму святу Галоўін. А на наступны дзень у зале беларускай каталіцкай царквы Хрыста Збаўцы была яшчэ наладжана і літаратурная сустрэча... Божа, якія мілыя твары, якая мілагучная наша гаворка, колькі любові да нашай роднай Бацькаўшчыны! Збераглася мова, зберагліся нашы народныя традыцыі і, галоўнае, святая любоў да роднай зямлі, да ўсяго свайго, да нашага! А мы тут спрачаемся, колькі мець дзяржаўных моваў, не разумеючы, што толькі ў адраджанасці наша выратаванне. Любая нацыя, любы народ моцны і дужы заўсёды перш за ўсё сваім нацыянальным духам, усім тым, што ён атрымаў у спадчыну. А наша спадчына, і гістарычная, і культурная, ой, якая багатая! Ды гэта ўжо, напэўна, размова для другога артыкула, а цяпер Амерыка, а дакладней, Чыкага... І я звярнуся да непрадбачаных сустрэч.

Тымі днямі амерыканцы абіралі новага Прэзідэнта. Адным з кандыдатаў у прэзідэнты, як вядома, быў Біл Клінтан, які так бліскуча перамог на выбарах. 20 кастрычніка ён прыязджаў у Чыкага на сустрэчу з выбаршчыкамі, і як было прапусціць такі момант! Джойс, дзядзька Саша і мы ўсе паехалі на сустрэчу... Слухалі яго прамову, захапляліся здаля яго абаяльнасцю. Не ведаю, ці запомніў той дзень у Чыкага сённяшні пан Прэзідэнт, для мяне тая сустрэча засталася ў вершы:

**Уздым такі калі яшчэ спазнае**
**мой дух, тугі адужаўшы**
**паркан...**
**Ліст у паветры матыльком**
**лунае,**
**і адлівае сінню Мічыган.**

**Ці ж я была на ўсплёск**
**пачуццяў**
**жміндай!**
**Акрыленасць — душы маёй**
**справа.**
**Яна крычыць, імкнецца ў высі:**
**"Клінтан!",**
**хоць і няма ў мяне такога**
**права.**

**Хвалюе вецер голле мройных**
**дрэў,**
**і ў кожным з іх бруіцца**
**сонца прага.**
**І гэты міг узвышаны, як спеў —**
**Кастрычнік, дзень дваццаты**
**ў ім, Чыкага!**

І была яшчэ адна неспадзяваная сустрэча... У нейкі з дзён ехалі ў цэнтр горада, і раптам за вокнамі машыны прамільгнуў помнік: Тадэвуш Касцюшка...

Праз час з'явяцца радкі:

**Даруй, зямляк, што на**
**радзіме**
**такой вось памяці няма!**

А тады проста нейкая шчымлівая хваля абдала сэрца. Колькі ж нашых суайчыннікаў пакінулі аб сабе добрую памяць дзесьці на чужыне! Былі сярод іх і паэты, і мастакі, і звычайныя сапраўдныя змагары за гэтае салодкае слоўка "воля"... І пісаць нам яшчэ пра іх, і збіраць па крупінках усё, што звязана з іх жыццём, а пакуль напрошваецца пытанне: якой жа адкрылася мне Амерыка, якой я пабачыла яе?



Перш за ўсё працавітай, з багатай культурай штодзённага побыту, вельмі сардэчнай, шчырай і спагадлівай. Неаднойчы падумалася, што дарэмна мы скардзімся, маўляў, з Захаду ідуць да нас не тыя фільмы, не тыя кніжкі, у якіх паказваецца і апісваецца жорсткасць, насілле... Гэта мы самі абіраем для сябе не тое. Амерыканцы чыстыя сваім духам, прыгожыя сэрцамі, шчырыя на цяпло, заўсёды ўсмешлівыя і адкрытыя. На адной з машын у шматлікім патоку аднойчы заўважыла надпіс, прымацаваны ззаду. Папрасіла дзядзьку Сашу перакласці, што там напісана, і пачула: "Ці абняў ты сёння сваё дзіця?" Ці заклікаем мы да гэтага адзін аднаго, ці пытаемся пра гэта? Родныя беларусы, ці абнялі вы сёння сваіх дзетак, ці выказалі ім сваю пяшчоту і любоў? Нашы дзеці — наш працяг... Мы апошнім часам залішне ўкруціліся ў нейкі спажывецкі дух, і трэба як мага хутчэй выходзіць з гэтага. Вядома, Амерыка вельмі багатая краіна, не могуць не ўражваць яе шыкоўныя магазіны, яе бляск, але для амерыканцаў гэта не галоўнае. У штодзённым побыце, у адзенні цэніцца зручнасць. Галоўнае ж — сям'я, праца... і Амерыка. Усе амерыканцы працуюць на яе дабрабыт.

Тры тыдні, пражытыя ў Чыкага, праляцелі хутка. Былі музеі, паездкі за горад, асобна хацелася б расказаць, як святкуецца там Галоўін. У гэтым свяце ёсць нешта і ад Калядаў, і ад нашага Купалля, але гэта ўжо будуць старонкі новых артыкулаў і, напэўна ж, радкі вершаў. У асобным артыкуле напішацца і пра спадарыню Веру, і пра спадара Вітаўта. Дарэчы, Вера Рамук піша вершы і падпісваецца — Вера Жураўель. А спадар Вітаўт супрацоўнічае з рэдакцыяй газеты "Беларус", якая выдаецца ў Амерыцы, і рыхтуе шматлікія матэрыялы для радыёпраграмы "Нёман" у Чыкага. Узначальвае ж і адказны за гэтую праграму брат спадарыні Веры Нікодым Жызьнеўскі.

Перабіраю фотаздымкі, прывезеныя з Чыкага. На адным з іх ля магноліі, што ўзялася бялюткім цветам, стаіць дачка Джойс — Саша. І маё ўяўленне перакідваецца туды, у Вестэрн Спрынгс.

Гэтымі майскімі днямі там зноў расцвіла магнолія... І я была б няшчырай, каб сказала, што мне не хочацца туды, у іх спакой, у іх пэўнасць, у магчымасць зазірнуць у ясныя, сінія вочы Джойс, пачуць жартаўлівую гаворку дзядзькі, але я — дома і спадзяюся праз які год сустрэцца з імі ў сваёй кватэры. А там хай цвіце магнолія, хай цешыць вочы сваякоў, і недзе праз кварталы хай б'ецца аб берагі сваімі сінімі хвалямі возера Мічыган. Мне прыемна, што я была на яго берагах, што жывуць у маёй душы светлыя ўспаміны. І хочацца сказаць праз адлегласць: "Жыве Беларусь — жыве Амерыка!"

**Раіса БАРАВІКОВА.**



**НА ЗДЫМКАХ: Раіса БАРАВІКОВА (у цэнтры) сярод землякоў у Чыкага ў дзень святкавання 47-х угодкаў ААН; такія падушкі, зробленыя рукамі Л. Бяленіс, экспануюцца на выстаўках беларускага мастацтва ў ЗША.**

# ВЯРТАННЕ

## ЖЫЦЦЯПІС БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА

Лідзія САВІК



Усё было б ціха, каб прысутныя на ўроках дзеці польскіх асаднікаў не расказалі бацькам, а тыя не пайшлі да дырэктара і не пачалі скардзіцца, як настаўнік Рамановіч зневажае на сваіх уроках усё польскае асадніцтва. У выніку пачалося следства — прыехала вышэйшае школьнае начальства, пачало выклікаць вучняў на допыт, і найперш Барыса Кіта. Аднак беларускія вучні вырашылі не выдаваць свайго настаўніка. Барыс Кіт на допыце запярэчыў супраць абвінавачванняў Рамановіча, і яго не змаглі звольніць з працы, але перавялі ў іншую школу. Для Барыса Кіта гэта абарона Рамановіча скончылася тым, што яму не далі абяцаную стыпендыю для вучобы ў Акадэміі мастацтваў. Кар"ера магчымага мастака была спынена на самым пачатку. Аднак гэта падзея мела і свой працяг. Настаўнік Рамановіч у падзяку сваім вучням-беларусам Кіту, Васілеўскаму, Вярбіцкаму і Гоцку вырашыў "сплаціць даўгі" — падрыхтаваць іх у час летніх вакацыяў да паступлення ў Наваградскую беларускую гімназію. Гэтыя летнія сумесныя заняткі яшчэ больш зблізілі настаўніка і вучняў, аб"ядналі іх у імкненні падтрымліваць адзін аднаго, што не раз потым здаралася, калі Барыс Кіт ужо працаваў інспектарам школ, а Рамановіч — звычайным настаўнікам. Так выпрацоўвалася ў юнакоў, якія толькі ўступалі ў жыццё, нацыянальная самасвядомасць, пачаткі беларускасці, высокага патрыятызму, чалавечай годнасці.

Добрасумленна і грунтоўна падрыхтаваныя Барыс Кіт і яго сябры паступілі ў шосты клас Наваградскай беларускай гімназіі. Гэта быў верасень 1926 года.

Незвычайна цікавай і павучальнай была гісторыя Наваградскай беларускай гімназіі. Яна праіснавала 15 гадоў, але пакінула вялікі след у гісторыі краю. Гімназія стала роднай і любімай для вучняў, а не казённай і варожай Бацькаўшчыне і роднай мове. Мясціліся яе класы ў старым будынку на рыначнай плошчы Наваградка. Заняткі адбываліся ў другую змену, у першую тут займалася яўрэйская школа. Першыя беларускамоўныя класы пачалі працаваць ужо ў 1921 годзе. У польскай гімназіі трэба было плаціць 300 злотых у год, а 50 злотых каштавала карова, пуд жыта — 2 злотых. Таму бацькі, нават заможныя, не маглі пасылаць туды сваіх дзяцей. Адкрыццё беларускіх гімназій было жыццёва неабходнай справай. Гімназія існавала на складкі бацькоў, без ніякіх дзяржаўных датацый, і таму не ўсе настаўнікі мелі магчымасць атрымліваць зарплату. Дырэктар гімназіі Пётра Скрабец быў клапатлівым бацькам для вучняў, патрыётам Беларусі, як і многія настаўнікі-беларусы: Чатырка, Ціханоўскі, Данілевіч, якія самаахвярна служылі беларускай справе, навучалі дзяцей роднай мове, гісторыі, многім іншым навукам. Аднак Наваградская гімназія, як і іншыя беларускія гімназіі, пабудаваная па ўзору класічных гімназій, мела 8 класаў і была прыватнай установай, і выпускнікі яе не маглі паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы Польшчы. Многія выязджалі ў Чэхаславакію, Прагу, Бельгію, дзе іх прымалі ва універсітэты без усялякіх перашкодаў на падставе пасведчання аб заканчэнні гімназіі і экзаменаў, а таксама давалі стыпендыі. У Празе атрымалі вышэйшую адукацыю такія выпускнікі Наваградскай гімназіі, як Аляксандр і Пётра Орсы, Мікалай Гарошка, вядомыя дзеячы беларускага нацыянальнага руху, з якімі быў добра знаёмы Барыс Кіт. "Беларуская школа, узяўшы за руку, вяла на дарогі адкрыцця, шляхі радасных і бясцэнных знаходак, — пісаў беларускі пісьменнік на эміграцыі Кастусь Акула ў сваёй аповесці "За волю", надаючы вялікае значэнне нацыянальнай адукацыі. — Ад свае гразкае вуліцы — на бальшак, а там і на вялікія дарогі. Прывівалася любоў да пакрыўджанага шматпакутнага колішняга гаспадара роднай зямлі, створанай ім культуры, да Бога, зруйнаваных нацыянальных і рэлігійных святыняў, роднае мовы, народных традыцыяў, песняў, мастацтва. Побач тая ж дагэтуль невядомая гісторыя Беларусі раскрывала і выстаўляла бясспрэчнымі фактычнымі доказамі жахлівае махлярства, суцэльную хлусню і варварства суседзяў, што заўсёды пад лозунгамі хрысціянства і панславізму, падпертага колішнім місіянізмам, пасля камунізмам і ці мала яшчэ якімі крывадушнымі ізмамі, крывавілі, выбівалі, стагоддзямі паланілі некалі вялікі й міралюбны народ, падсякалі ягонае жывое карэнне. Моладзь прагна спажывала духовы корм, станавілася на поўны рост, напаўняла родныя прасторы патрыятычнымі песнямі, рухалася ад асноўнага вывучэння ўсяго свайго роднага й дарагога да элементарнага тварэння гісторыі".

Тварыць гісторыю ўласнага жыцця і ўваходзіць у гісторыю Беларусі Барыс Кіт пачаў з гадоў навучання ў Наваградскай гімназіі. Першы раз на заняткі ў верасні 1926 года бацька адвёз яго з Карэліч у Наваградак на кані, пасля дарогу ў 20 кіламетраў ён не раз адольваў пехатою — зімой і летам, каб дапамагаць у гаспадарцы бацьку, якога вельмі любіў і паважаў, адносіны ў іх былі найлепшыя. Адмерваючы гэтыя кіламетры, юнак не пераставаў любавацца цудоўнымі краявідамі родных мясцін, курганамі, пагоркамі, лясамі, старажытнымі азёрамі, паўнаводным Нёманам. Апетыя Адамам Міцкевічам возера Свіцязь і Янкам Нёманскім возера Кромань і сёння захапляюць сваёй незвычайнай і таямнічай прыгажосцю кожнага, хто пабывае на іх берагах, углядзіцца ў загадкавую бездань, паслухае паданні, якія нясуць іх нястомныя хвалі. А тады рамантычныя гісторыі, якія адбываліся ў гэтых мясцінах, былі добра вядомыя Барысу Кіту, ён быццам станавіўся саўдзельнікам далёкіх падзей, далучаўся да герояў "Свіцязянкі", падання "Над Кроманню", дзе Янка Нёманскі раскрывае легенду пра ўтварэнне возера і князя Войшалка. І можа пра гэтыя даўнія падзеі мроілася юнаку, калі ён адпачываў на паўдарозе, седзячы на прыступках старой каплічкі, якая згадваецца ў паэме Адама Міцкевіча "Дзяды". Ці не адсюль пачалося для будучага сусветна вядомага акадэміка адчуванне Радзімы, Беларусі, любоў да якой ён пранёс праз усё жыццё? Ён пабачыў мноства краін, любаваўся іх экзатычнай прыродай, але заўсёды найвышэй ставіў мілую сэрцу, ні з чым непараўнальную прыгажосць Бацькаўшчыны.

Гады навучання ў Наваградскай гімназіі для Барыса Кіта пазначаны не толькі яго нястомным жаданнем спазнаць гісторыю бацькоўскага краю, выдатнай вучобай, але і актыўнай грамадска-літаратурнай і пазашкольнай працай. Гэты перыяд (1926—1928) наогул надзвычай цікавы ў гісторыі Заходняй Беларусі. Шырока дзейнічала Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, якая дэманстравала вялікі нацыянальны ўздым беларускага народа. Старшынёй яе быў вядомы беларускі грамадскі дзеяч Браніслаў Тарашкевіч. Гэта быў час да разгрому Сталіным беларускай інтэлігенцыі, "нацдэмаў" у Савецкай Беларусі, калі заходняя частка насельніцтва, якая пакутавала ад польскага ўціску, з ілюзійнымі надзеямі пазірала на Савецкі Саюз. Грамада расла бурна, у яе дзейнасці прымалі ўдзел і старэйшыя гімназісты Наваградскай гімназіі. Барыс Кіт арганізоўваў па вёсках гурткі, у тым ліку і ў сваіх Агародніках, дзе старшынёй гуртка Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады быў абраны яго бацька.

Палітычная актыўнасць вучняў так занепакоіла дырэктара гімназіі, што ён вымушаны быў прасіць некаторых дзеячаў беларускага руху, якія на той час карысталіся вялікім аўтарытэтам сярод беларускага насельніцтва за сваю грамадскую дзейнасць, каб яны прыехалі ў Наваградак і нейкім чынам паўплывалі на вучняў, змусілі іх больш займацца навукай, а не палітыкай. Але гэта не дапамагло. Хутка за палітычную дзейнасць многіх найбольш актыўных вучняў, у тым ліку і Барыса Кіта, настаўніка Міхала Чатырку, арыштавалі. Дапытвалі некалькі дзён, але ніхто ні ў чым не прызнаваўся, і таму большая частка гімназістаў была выпушчана з паліцэйскага пастарунку, затрымалі толькі тых, чыя сувязь з кампартыяй Заходняй Беларусі была даказана. Пазней яны былі асуджаны і прасядзелі да 1939 года. Далейшы іх лёс склаўся яшчэ больш трагічна, калі адбылося ўз"яднанне Беларусі і пачаліся сталінскія рэпрэсіі. Многія вядомыя і актыўныя дзеячы Грамады, нягледзячы на тое, што сядзелі ў польскіх турмах, былі арыштаваны ўжо савецкай уладай, загінулі ў турмах і канцлагерах, як гэта здарылася з Б.Тарашкевічам, Рак-Міхайлоўскім, Дварчаніным, Валошыным. Усе гэтыя людзі і падзеі добра памятныя Барысу Кіту.

Пасля разгрому Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ў Наваградскай гімназіі запанаваў больш нацыянальны, беларуска-патрыятычны настрой сярод вучняў, суцішылася палітычная дзейнасць. Гэтаму накірунку садзейнічаў і новы дырэктар Янка Ціханоўскі, які меў вялікі ўплыў на Барыса Кіта менавіта гэтай сваёй беларускасцю. Аднак дзейная натура Барыса Кіта не магла змірыцца з ціхай плынню будзённых гімназічных дзён. Ён арганізаваў літаратурны гурток, наладжваў літаратурныя вечары, сам спрабаваў пісаць вершы. Сцвярджаючы сябе здабываннем глыбокіх ведаў, актыўным удзелам у жыцці гімназіі, ён паспяваў наведвацца да бацькі, дзе аднавяскоўцы часта яго бачылі з кнігай, асабліва летам, калі пасвіў статак. Бацька не мог яму дапамагаць матэрыяльна, гаспадарку меў бедную і таму вымушаны быў часта падрабляць то ў маёнтку Храптовіча на сенажацях, то ў цагельні. Таму Барысу Кіту, як і іншым вучням-выдатнікам з бедных сем"яў, дапамагалі напачатку дырэкцыя гімназіі і бацькоўскі камітэт, даючы магчымасць бясплатна вучыцца і жыць у інтэрнаце, а пасля сталі дапамагаць павятовыя ўлады пад кіраўніцтвам ліберальнага і прабеларускі настроенага старасты Грынеўскага і вядомай грамадскай дзяячкі яго жонкі Урсулы Грынеўскай.

У 1928 годзе ваяводам у Наваградку быў Зыгмунт Бэчковіч, чалавек з больш пазітыўнымі адносінамі да беларускага насельніцтва. Даведаўшыся аб цяжкім становішчы беларускай гімназіі, многіх вучняў і настаўнікаў, ён пачаў рабіць захады, каб ёй быў нададзены статус дзяржаўнай. У выніку ягоных намаганняў Наваградская, а затым Віленская беларускія гімназіі дзяржаўныя правы атрымалі.

Працяг.
Пачатак у №№ 22, 23.



Барыс Кіт з праўнукам.

ЗДАЛЁК — РАДЗІМА МІЛЕЙ

# ВІТАЎТ ДРАЗДОЎСКІ — КАТОЛІК, МАСТАК, БЕЛАРУС

Сапраўднае яго прозвішча — Драздоў. Але ён лічыць, што Драздоў — гэта занадта рускае, хаця і распаўсюджанае на Гомельшчыне прозвішча. І таму абраў для сябе іншае — Драздоўскі: так бліжэй да ягоных каранёў. А карані — на матчынай радзіме, на Віцебшчыне, хаця сам Вітаўт нарадзіўся ў Гомелі. Там і вучыўся. Спачатку ў выяўленчай студыі пры Палацы піянераў, потым у Гомельскім вучылішчы народных промыслаў. І не меў аніякіх праблем.

Праблемы ўзніклі, калі ён паехаў у Іванава, дзе паступіў у тамтэйшае мастацкае вучылішча. Якраз там адчуў, што ён — ужо не Віктар, а Вітаўт, а потым незаўважна прыйшло перакананне, што ён яшчэ і Драздоўскі, ды яшчэ і католік, хаця дагэтуль лічыўся праваслаўным. Свой пераход да іншага веравызнання не замацоўваў ніяк — усё адбылося само сабой: у нейкі момант Вітаўт адчуў, што асіміляцыя пагражае яму, прытым даволі моцна: ён усё больш і больш аддаляецца ад таго, што яму дорага і блізка, і адпаведнай рэакцыяй на гэта ўздзеянне якраз і быў пераход у каталіцтва, у матчыну веру.

Такі даволі неардынарны крок і дазволіў маладому хлопцу ясней убачыць тое, што можа яму даць руская культура і рускае асяроддзе, у якім ён знаходзіўся: цяпер яно не пагражала яму, а, наадварот, толькі ўзбагачала. І яшчэ памагала вырасці таму зерню, якое закладваецца ў кожнага, але не кожны здагадваецца, якое ж яно. Гэтым зернем быў для Вітаўта тэатр, якім ён захапляўся з дзяцінства.

І Вітаўт Драздоўскі так і не зрабіўся Віктарам Драздовым — звычайным настаўнікам малявання, якім мусіў быць пасля заканчэння вучылішча. Лёс прывёў яго ў Санкт-Пецярбург і пазнаёміў там з беларусамі, сябрамі грамадска-культурнага таварыства: мастакамі, навукоўцамі, літаратарамі, студэнтамі, рабочымі — усімі тымі, хто не забыўся яшчэ, што ён беларус, і згуртаваўся вакол Валянціна Грыцкевіча, выкладчыка Ленінградскага інстытута культуры, Міколы Нікалаева, загадчыка аддзела газет Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, Івана Чэрнякевіча, выпускніка Вышэйшага мастацка-прамысловага вучылішча імя Мухінай, і іншых сяброў, па ініцыятыве якіх і была створана ў 1989 годзе беларуская суполка ў гэтым паўночным горадзе.

**— Вітаўт, ты самы малады з удзельнікаў творчай групы "Пецярбургскі маёнтак". У цябе наперадзе цэлае жыццё. Што цябе больш за ўсё радуе ці палохае!**

— Я баюся зрабіцца Іонычам.

**— Як гэта!**

— Звычайна. Іоныч таксама быў некалі маладым чалавекам, поўным надзеяў і жаданняў, марыў пра славу, але паступова — якраз праз тое, што дамогся і славы, і багацця — ператвараецца ў абывацеля, як казалі раней, а калі па-цяперашняму, то ў даволі добра забяспечанага чалавека, юначыя спадзяванні для катора га — пусты гук. І нарэшце для яго наступае той момант, калі і багацце, і слава яго ўжо не радуюць. Ён перастае сачыць за сабой, пацёху апускаецца, ім нават пачынаюць палохаць дзяцей.

**— Але чаму ты баішся зрабіцца менавіта ім! Што табе пагражае!**

— Ад "залатога цяльца" ніхто не застрахаваны.

**— Значыцца, ты адчуваеш, што пляцоўка, на якой ты стаіш, хістаецца!**

— Не, я шчэ толькі будую яе. І пакуль будую, міжволі адчуваю комплекс вучня, ці лепей — комплекс студэнта, праз які праходзяць усе.

**— А ты ўжо вызначыў, якой будзе гэта пляцоўка!**

— Напэўна, так!

**— І што гэта: жывапіс ці тэатр!**

— Ведаеце, калі зірнуць на тыя гады, якія засталіся за спіною, то заўважыш, як цесна перапляталюцца гэтыя два кірункі: выяўленчая студыя пры гомельскім Палацы піянераў, Іванаўскае мастацкае вучылішча, цяпер вось — Санкт-Пецярбургскі інстытут тэатра, музыкі і кіно. На першы погляд, нібыта хістанні. Але я яшчэ ў школе ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. У Іванаве — і ў вучылішчы, і ў мясцовым універсітэце, пры якім існаваў народны тэатр, — ставіў і афармляў спектаклі, і таму пасля заканчэння вучылішча ў мяне не было аніякіх ваганняў. Я паехаў у Санкт-Пецярбург і з першага разу паступіў на пастановачнае аддзяленне інстытута, дзе цяпер і займаюся.

**— Але ж я бачыў твае жывапісныя работы, да прыкладу, "Аўтапартрэт", зроблены ў стылі магнацкіх партрэтаў. Гэта вельмі добры жывапіс. Ці не разрываешся ты паміж ім і тэатрам!**

— Жывапіс — аднамерны, тэатр — шматгранны.

**— А хіба "Джаконда" — аднамерная!**

— Калі б "Джаконду" напісалі гадоў на дзвесце пазней, яе ніхто не заўважыў бы: спрацоўвае эфект даўнасці. На ўсіх вельмі моцна ўздзейнічае аура тагачаснага Адраджэння.

**— А тэатр!**

— Калі параўнаць тэатральную пастаноўку з жывапіснай карцінай, то падасца, што ў гэтай карціне можна жыць, існаваць у ёй.

**— Але ж спектакль не паўторыш. Кожны раз ён ужо іншы. Ці не шкада, калі тое, што ты стварыў, у чым удзельнічаў, мусіць памерці!**

— Але ж будзе наступны! Калі малюеш карціну, думка заўсёды апярэджвае руку, якая трымае пэндзаль, а ў тэатры думка твая заўсёды з табой: віруе разам з думкамі іншых людзей — рэжысёра, акцёраў, усіх тых, хто заняты ў спектаклі, — і скрыжаванне, перапляценне гэтых думак адначасова і ўзбагачае, і прыносіць асалоду.

**— То можна сказаць, што ты яшчэ расцеш, яшчэ вучышся!**

— Любы добры майстар вучыцца ўсё жыццё. Мяне здзівіў Таўстаногаў: на пытанне, ці глядзіць ён спектаклі іншых рэжысёраў, той адказаў — абавязкова! Чаму? Гэта — вучоба, сказаў тады славуты майстар.

**— І калі тая пляцоўка, якую ты зараз будуеш, зробіцца нарэшце тваёй, які шлях ты абіраеш! Ці паедзеш на Беларусь, напрыклад, у свой родны Гомель!**

— Калі шчыра, то мне шмат лягчэй тут, у Піцеры, думаць пра Гомель, чым у Гомелі думаць пра Беларусь. Жывучы на Радзіме, не так востра адчуваеш патрэбу зрабіць для яе тое, на што здатна твая душа. Там усё неяк сціраецца. Відаць, таму, што "вялікае бачыцца на адлегласці", як сказаў вядомы паэт. Жыць на Радзіме, канечне, лягчэй, асабліва ў матэрыяльным сэнсе, але затое і лягчэй зрабіцца абывацелем, Іонычам. А Піцер не дазваляе расслабіцца.

**— У мінулым годзе ты разам з сябрамі — Янкам Чэрнякевічам, Віцем Сівухам, Юрам Казаком і іншымі — удзельнічаў у выставе мастакоў-беларусаў, прыналежных да творчай групы "Маю гонар". Якія твае ўражанні ад той мінскай выставы!**

— Нас разумелі.

**— У якім сэнсе!**

— Тыя, хто наведваў выставу, разумелі, што наша, скажам так, "піцерская" мастацкая школа трошкі іншая, чым беларуская, але гледачы не адмаўлялі яе. І прымалі не таму, што яна "піцерская", а таму, што тое, пра што мы імкнуліся сказаць у сваіх работах, было і іхнім, было агульначалавечым і нават больш беларускім, чым якаясь работа з атрыбутамі беларушчыны. Дух Бацькаўшчыны існаваў дзесь у сярэдзіне карціны. Сродкі выяўлення — не беларускія (і гэта сапраўды залежыць ад школы), а дух — беларускі. Яго не выкарчаваць аніякім школам, аніякім мастацкім кірункам. Гэта тое, з чым мы нарадзіліся, з чым, напэўна, і памром, хаця думаць пра гэта мне яшчэ, напэўна, ранавата. Да таго ж — "піцерская" школа не пярэчыць іншым школам. Яна проста ўзбагачае іншыя. І калі я воляю лёсу апынуўся тут, то, мусіць, трэба яму падзякаваць і за тое, што ён дае мне магчымасць аддаць штосьці і сваёй Радзіме. Я зрабіў у гэтым плане яшчэ вельмі мала, але, як вы заўважылі, наперадзе ў мяне...

... Вітаўт нечакана змоўк. Засяродзіўся. Напэўна, ён ужо даўно быў там, на Бацькаўшчыне, і ў яго зеленавата-блакітных вачах мільгалі знаёмыя з дзяцінства краявіды Гомельшчыны ці Віцебшчыны, і сэрца ягонае, напэўна, разрывалася паміж сапраўды прываблівай мастакоўскай Мекай — Пецярбургам — і не менш прывабным родным краем, які ніколі нельга забыць. Ці лёгка жыць на чужыне?

**Гутарыў Анатоль КІРВЕЛЬ.**



**НА ЗДЫМКУ: макет да спектакля "Смерць Дантона" Бюхнера, выкананы мастаком.**

# КАЗАЦКІЯ БАЛСУНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

цовасці сапраўды некалі пасяліліся людзі, якія адрозніваліся асаблівасцямі сваёй гаворкі ад навакольнага карэннага насельніцтва. Такімі "нямкамі" маглі быць і "казакі", дакладней кажучы, перасяленцы з пэўных раёнаў Украіны.

Гэты наш вывад заснаваны ў сваю чаргу яшчэ на некалькіх фактах. Пад словам "Козаччина", як вынікае са "Словаря белорусского наречия" І. Насовіча, на Беларусі ў мінулым разумелі Маларасію, ці Украіну. Перасяленцаў з Маларасіі на тэрыторыі Беларусі яшчэ з XYI стагоддзя часта называлі чаркасамі і валынцамі. Назвы населеных пунктаў, якія мы прааналізавалі ў папярэднім раздзеле, у тым ліку, назвы, якія зафіксаваны на поўнач ад Казацкіх Балсуноў і Нямкоў, у былым Чэрыкаўскім павеце і іншых раёнах сучаснай Магілёўшчыны (Чавускі, Хоцімскі, Горацкі, Клімавіцкі), таксама ўскосна пацвярджаюць наш вывад.

Што ж датычыцца Казацкіх Балсуноў, то сама гэта вёска, як і яе найменне, ужо несумненна звязана з геаграфічнай назвай і населеным пунктам **Балсуны,** які існуе ў Чачэрскім раёне, за 15 кіламетраў на поўнач (шчыльнасць забруджання цэзіем-137 — 8,80 кюры на квадратны кіламетр). Назва **Балсуны** паходзіць ад прозвішча **Балсун (Болсун),** якое насілі першапасяленцы як вёскі Балсуны, так і вёскі Казацкія Балсуны. Аб гэтым сведчыць і нагаданае вышэй паданне, і распаўсюджанне гэтага прозвішча ў даным раёне ў нашы дні. Прозвішча **Балсун (Болсун)** па паходжанні з'яўляецца зусім не славянскім. Хутчэй за ўсё, яго вытокі трэба шукаць у цюркскіх мовах, хоць дакладнае значэнне высветліць цяжка. Вядомы беларускі даследчык прозвішчаў, мянушак і імёнаў М.Бірыла ўказвае, напрыклад, адпаведнае слова з кіргізскай мовы ў значэнні "хай будзе", на падставе якога ён тлумачыць прозвішча Балсун (Болсун). Такія прозвішчы фіксуюцца ва ўкраінскіх пісьмовых помніках з XY стагоддзя, а ў беларускіх — з XYII стагоддзя. Прозвішча (мянушку) **Балсун (Болсун)** на берагі Бесядзі і Каўпіты (вёска Балсуны Чачэрскага раёна размешчана ля ракі Каўпіты, прытока Бесядзі) маглі прынесці з сабой тыя ж маларасійскія перасяленцы. Вядома, што славянскія плямёны, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Украіны, спрадвеку сутыкаліся з носьбітамі розных цюркскіх гаворак, качэўнікамі, што няспынна рухаліся з глыбіні еўразійскіх стэпаў на працягу многіх стагоддзяў. Таму ў гаворках украінцаў ёсць асобныя цюркскія словы, ды і мянушкі і прозвішчы іх, у тым ліку многія асабовыя імёны ўкраінскіх казакоў, маюць цюркскае паходжанне.

Такім чынам, наяўнасць рэальных казакоў, перасяленцаў з Украіны, у паўночнай частцы сучаснай Веткаўшчыны і суседніх раёнах у мінулым цалкам магчыма. А калі гэта так, то заканамерным выглядае і наступнае пытанне: калі і чаму яны (гэта значыць казакі) тут з'явіліся?

Перад 1772 годам, калі адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай, граніца паміж гэтай дзяржавай і Расіяй праходзіла якраз у наваколлях Казацкіх Балсуноў і Нямкоў. Прычым, праходзіла такім чынам, што абодва гэтыя населеныя пункты размяшчаліся на яе рускім баку. Даная граніца ўсталявалася пасля 1667 года, калі завяршылася працяглая вайна Расіі з Рэччу Паспалітай. Вайна распачалася ў 1654 годзе пасля далучэння да Расіі Украіны. А ў 1667 годзе ў вёсцы Андрусава на Смаленшчыне было заключана перамір'е. На тое, што Казацкія Балсуны, Нямкі ды яшчэ і вёска Балсуны сучаснага Чачэрскага раёна знаходзіліся на рускім баку граніцы, ускосна ўказваюць інвентары Чачэрскага староства за 1704 — 1726 гады. Чачэрскае староства ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, і да яго належалі многія суседнія з Казацкімі Балсунамі вёскі, напрыклад, Нісімкавічы, Валосавічы, Свяцілавічы, нават Стаўбун. А вось Казацкіх Балсуноў, Нямкоў і Балсуноў у інвентарах няма, выходзіць, яны знаходзіліся паза межамі староства. А гэта раўназначна таму, што гэтыя вёскі былі ў складзе суседніх расійскіх абласцей.

105 гадоў, цэлае стагоддзе, з 1667 па 1772 год, гэта той адрэзак часу, калі рэальна гаварыць аб заснаванні і паступовым росце Казацкіх Балсуноў ды, магчыма, і Нямкоў. Пагранічнае размяшчэнне гэтых вёсак падказвае менавіта такі вывад. Пасля ўсталявання граніцы рускі ўрад, як можна меркаваць, вымушаны быў клапаціцца аб узвядзенні вартаўнічых застаў і пастоў. Для гэтай мэты маглі запрашацца "вольныя людзі", украінскія казакі, якія толькі-толькі прынялі падданства рускага цара. Казакам за нясенне службы даваліся зямля і плата. Паступова частка гэтых вартавых казакоў была пераведзена ў так званае "падатковае саслоўе" і ператварылася ў адну з катэгорый дзяржаўных расійскіх сялян. Менавіта так было і ў выпадку з Казацкімі Балсунамі і, магчыма, Нямкамі. Гэтыя вёскі выраслі з вартаўнічых казацкіх застаў, якія былі заснаваны неўзабаве пасля ўсталявання руска-польскай граніцы ў 1667 годзе. Што ж датычыцца вёскі Балсуны Чачэрскага раёна, то, згодна з паданнем, якое бытуе ў Казацкіх Балсунах, гэтая вёска ўзнікла з хутара Балсункі, на якім першапачаткова пасяліліся выхадцы з Казацкіх Балсуноў ("сыны атамана Болсуна"). Данаму паданню, на наш погляд, няма падстаў не давяраць.

Праўда, нельга абвяргаць і магчымасць таго, што Казацкія Балсуны заснавалі зусім не ўкраінскія казакі, а казакі данскія, якіх якраз пасля 1667 года пасялілі на польскай граніцы. Данскія казакі фарміраваліся на аснове так званых броднікаў, патомкаў хазараў. Адсюль зразумела і цюркскае паходжанне прозвішча Балсун (Болсун). Некаторыя старажылы Казацкіх Балсуноў лічаць (вядома, гэта толькі пераказ падання, не больш таго), што падчас казацкіх войнаў іх вёска з'яўлялася вартаўнічым пастом казакоў пад началам палкоўніка Балсуна. Значыць, Казацкія Балсуны існавалі ўжо ў сярэдзіне XYII стагоддзя.

Зразумела, што адсутнасць прамых дакументаў з'яўляецца асноўнай перашкодай для станоўчага сцвярджэння, на якой бы версіі мы ні настойвалі. Вось яшчэ некалькі цікавых фактаў, як кажуць, для разважання. У Малых Нямках і Неглюбцы (успомнім, што гэтую апошнюю вёску, згодна з паданнем, заснаваў казак Неглюб) працякае ручай, які мае назву **Казачка**. Аналагічныя найменні існуюць і далёка ад Веткаўшчыны, напрыклад, у Жыткавіцкім раёне (азёры **Казачкова, Казачок, Казекі**), у Брагінскім раёне (балоты **Казакі, Казацкая Прыстань**). Што гэта значыць? Як тлумачыць гэтыя факты? Пакуль устрымаемся ад высноў, бо пошукі працягваюцца, і яны, пошукі, могуць унесці карэктывы і ў пытанні аб узнікненні Казацкіх Балсуноў.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




16 чэрвеня,

серада

### "БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ" БЯССОНАВА

**Пётр Бяссонаў адыграў важную ролю ў фальклярыстыцы другой палавіны XIX стагоддзя. Ён апублікаваў зборнік балгарскіх народных песень, шэсць выпускаў фальклору пад назвай "Калекі перахожыя", "Дзіцячыя песні". На развіццё беларускай навукі аб народнай творчасці значны ўплыў аказала праца П.Бяссонава "Беларускія песні з падрабязнымі тлумачэннямі іх творчасці і мовы, з нарысамі народнага абраду, звычаю і ўсяго быту" (1871), якую выдатны беларускі этнограф-фальклярыст Е.Раманаў назваў "настольнай кнігай збіральніка народных твораў, калі ён жадае стаць у гэтай справе на цвёрдую глебу". Гісторыя выдання гэтай кнігі праясняецца П.Бяссонавым у працы "Да пытання аб збіранні і выданні помнікаў народнай творчасці" (1896). З 1864 па 1867 год ён служыў у Вільні на пасадах дырэктара рабінскага вучылішча, потым — гімназіі, загадчыка музея і публічнай бібліятэкі, старшыні Археаграфічнай камісіі. У гэты час вывяраў і дапаўняў запісы беларускіх песень П.Кірэеўскага, якіх, па яго словах, было да пяцісот тэкстаў з усіх беларускіх губерняў. П.Бяссонаў падрыхтаваў і выдаў зборнік пры садзейнічанні "Таварыства любіцеляў расійскай славеснасці" і на пазычаныя сродкі А.Кошалева. У кнізе змешчана 181 песня. "Матэрыялу, у тэксце і каментарыях, засталося яшчэ на два тамы, і я з гарачкі пачаў было працягваць друкаванне ўжо з Харкава (з 1878 года), але, зразумела, хутка гэта спыніў, з-за цяжкасцей зносін здалёку і поўнага збяднення з грашовымі сродкамі, а гэта тым больш шкода, што з цягам часу набыты мною сапраўдныя беларускія, нават нотныя, рукапісы "Песень" і "Вершаў" XVII—XVIII стст.", — пісаў ён.**

**Зборнік беларускіх народных песень П.Бяссонава — наша каштоўная спадчына, значэнне якой ніколі не зменшыцца. Да самога ж складальніка і выдаўца стаўленне яго сучаснікаў было неадназначным. Яго абвінавачвалі ў нядобрасумленным выкарыстанні крыніц пры выданні балгарскіх песень, у спробе скампраметаваць А.Патабню, у імкненні перашкодзіць абароне дысертацый М.Халанскаму і М.Сумцову. Погляды П.Бяссонава нельга назваць прагрэсіўнымі, перадавымі. Але зробленае ім для нас вельмі патрэбнае. Мы і сёння карыстаемся працамі даследчыка.**

**А.ФЯДОСІК.**

## СПОРТ

КУЛЯВАЯ СТРАЛЬБА. У Мюнхене завяршыўся чарговы этап Кубка свету. Прадстаўнік Рэспублікі Беларусь Анатоль Кліменка вызначыўся ў стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, дзе заняў другое месца — 694,8 ачка.

ТЭНІС. Пара — мінчанка Наталля Зверава і амерыканка Джыджы Фернандэс — стала пераможцай турніру "Ралан Гарас", які прайшоў у Францыі. Нагадаем, гэта пятая запар перамога беларускай тэнісісткі на такіх спаборніцтвах. Падобнага прыкладу ў сусветнай практыцы яшчэ не было.

ВАЛЕЙБОЛ. Жаночая зборная Беларусі — у фінале чэмпіянату Еўропы. Гэта стала вядома пасля перамогі нашых валейбалістак у адборачных спаборніцтвах над камандай Партугаліі з лікам 3:0.

САМБА. Ніжні Ноўгарад стаў месцам першынства свету сярод клубных каманд. Удала тут выступілі мінчане. Сяргей Раўскі з клуба "Самба" заваяваў залаты медаль, а яго таварышы па камандзе Сяргей Чэрнік і Дзмітрый Новік атрымалі па "бронзе".

ХАКЕЙ. Мінская каманда "Цівалі" пачне спаборніцтва за Кубак Еўропы 8-га кастрычніка. Разам з хакеістамі Беларусі ў адну групу трапілі спартсмены Славакіі, Эстоніі і Балгарыі.

ХАКЕЙ НА ТРАВЕ. Восем еўрапейскіх каманд удзельнічалі ў турніры Кубка чэмпіёнаў, што прайшоў у Англіі. Спартсмены ХК Мінск усяго адну сустрэчу завяршылі ўнічыю, а астатнія выйгралі. Гэта вывела беларускі клуб на першае месца.

ФЕХТАВАННЕ. Віталь Захараў, Уладзімір Плышэўскі, Уладзімір Пчанікін, Андрэй Мурашка, Андрэй Салянка — члены зборнай Беларусі, якая атрымала перамогу ў адкрытым чэмпіянаце Расіі.

Беларускія шпажысткі на гэтых спаборніцтвах занялі другое месца.

## У ДЗЯТЛАЎСКІМ МУЗЕІ



**Новы раздзел з''явіўся ў Дзятлаўскім музеі народнай славы. Ён расказвае пра беларускае таварыства, якое было створана ў райцэнтры ў 30-я гады. Арганізавала яго група патрыётаў, якія прапагандавалі родную мову, садзейнічалі вывучэнню звычаяў і традыцый народа. Пры таварыстве працавала школа, дзе актывісты выхоўвалі моладзь у духу любові да ўсяго беларускага. Быў створаны аркестр народных інструментаў, які з поспехам выступаў перад мясцовымі жыхарамі. У той час, калі ўсё беларускае актыўна прыцяснялася, гэта было своеасаблівым подзвігам.**

**НА ЗДЫМКУ: дырэктар музея Фёдар КРАСЮК знаёміць навучэнцаў школы N 1 гарадскога пасёлка Дзятлава з матэрыяламі новага раздзела.**

**Фота Э.КАБЯКА.**

## НАТАТКІ БІЁЛАГА

# МІГРАЦЫЯ Ў ПРЫРОДЗЕ

Прафесар Фларыдскага універсітэта Кар аддаў шмат гадоў вывучэнню марскіх чарапах і першым пачаў мецiць іх. Яму давялося ўстанавіць, што ў перыяд сваіх доўгіх міграцый яны напрасткі перасякаюць мора, захоўваючы сваю арыентацыю. Прафесар Кар лічыць, што чарапахі ў час міграцыі арыентуюцца па сонцу і зорках. Акрамя таго, ім уласціва здольнасць адчуваць прыкметы сушы ў адкрытым акіяне па водару роднага вострава. Гэты водар разносяць акіянічныя плыні.

Пытанне гэтае складанае, і яго вывучэнне працягваецца, бо датычыць не толькі чарапах, але і іншых "марскіх вандроўнікаў" — рыб.

Каб раскрыць таямніцы міграцый рыб, шляхі іхніх вандровак, іх таксама мецяць. Ёсць для гэтага самыя розныя меткі — ад простых шпілек з нумарам, якія чапляюць як запінку праз спінавую мышцу, да складаных гукавых перадатчыкаў.

Прэснаводныя рыбы: верхаводкі, плоткі, язі, шчупакі, самы і іншыя — ўвесь перыяд свайго развіцця ад ікрынак да дарослай стадыі жывуць у адных і тых жа рэчках і азёрах. Але ёсць рыбы, якія робяць працяглыя "падарожжы". Кожную восень да вусцяў рэчак усяго далёкаўсходняга ўзбярэжжа прыплываюць з паўночнай часткі басейна Ціхага акіяна касякі буйных рыб — прадстаўнікі ласосевых: гарбуша, чавыча, нерпа і іншыя. Усе яны ў адкрытым моры праплываюць вялікія адлегласці да сваіх нерасцілішчаў у рэках. Рухаючыся ўверх супраць цячэння, ласосі пераадольваюць усе перашкоды на сваім шляху. Ля вялікіх вадаспадаў і парогаў яны падскокваюць іншы раз на два метры і болей. Рыбы плывуць па рэчцы да тысячы кіламетраў, пакуль не дасягнуць тых мясцін, дзе пяць гадоў таму яны "нарадзіліся". Увесь шлях ад вусця да нерасцілішча ласосі не харчуюцца, жывуць толькі за кошт свайго тлушчу. Ціхаакіянскія ласосі кладуць ікру толькі раз у жыцці і паміраюць пасля першага нерасту. Праз чатыры месяцы з ікрынак вылупліваюцца малькі. А яшчэ праз 3—4 месяцы яны пачынаюць перамяшчацца ўніз па цячэнню да вусця ракі, потым у мора, адкуль прыйшлі іх родзічы. Ад вусця рэк ласосі ідуць у мора больш чым тры тысячы кіламетраў, што ўстаноўлена меткамі на рыбах. Назад яны вяртаюцца дарослымі, вялікімі, да метра даўжынёй, маса іх 5—6 кілаграмаў.

Міграцыйнае жыццё вядуць і асятровыя рыбы, такія, як бялуга, сяўруга, асетр. Яны водзяцца ў водах Каспійскага, Азоўскага і Чорнага мораў, а на нераст падымаюцца ў рэкі, праходзячы ўверх па цячэнню многія сотні кіламетраў. У адрозненне ад ціхаакіянскіх ласосяў гэтыя віды рыб не гінуць пасля нерасту, а вяртаюцца назад у марскія воды.

У процілегласць ласосям і асятровым ёсць рыбы, якія праводзяць сваю "маладосць" у прэсных водах, а на нераст плывуць у мора. Самая вядомая сярод гэтых рыб — звычайны, альбо еўрапейскі, вугор. Жыццё гэтай своеасаблівай рыбы вельмі цікавае і таямнічае. Вугор вядзе начное жыццё, а днём зарываецца ў бузяную глебу на глыбіню каля метра. Гэта драпежнік, які харчуецца дробнай рыбай, лічынкамі водных насякомых, ракападобнымі. Зімой ён наогул абыходзіцца без ежы, а зашываецца ў мяккі грунт і засынае. У дарослым стане ён жыве ў рэках Еўропы, уключаючы Англію, Ірландыю, Ісландыю. Распаўсюджаны і па берагах Міжземнага мора, рэках Італіі, Францыі, Марока, Алжыра.

Вугор жыве ў рэках басейна Балтыйскага мора. У Беларусі заплывае ў Заходні Буг, Нёман, Заходнюю Дзвіну, сустракаецца ў Прыпяці і Дняпры. Ёсць ён у Нарачы і Браслаўскіх азёрах, у якія быў запушчаны "маладняком", завезеным з Заходняй Еўропы.

Штогод у вусцях рэк з'яўляюцца вялікія чароды маленькіх празрыстых рыбінак, якіх называюць шклопадобнымі вуграмі. Яны рухаюцца ўверх па цячэнню рэчак і з цягам часу страчваюць сваю празрыстасць, растуць і набываюць афарбоўку звычайных вугроў. Пасля 5—6-гадовага знаходжання ў прэсных водах вугры пачынаюць мігрыраваць назад у мора. Пры гэтым, як і іншыя, схільныя да міграцыі рыбы, вугор моцна тлусцее, каб праплыць шлях у некалькі тысяч кіламетраў. Дарослыя вугры, пакідаючы рэкі, плывуць уздоўж берагоў Еўропы на захад, у Атлантычны акіян, перасякаюць яго і дабіраюцца да Саргасава мора, каб на глыбіні да 400 метраў адкласці ікру, а потым, ужо пасля нерасту, загінуць. Вылупіўшыся з ікрынак у Саргасавым моры, празрыстыя, лістападобныя лічынкі з водамі магутнага цячэння Гальфстрыма дасягаюць за тры гады берагоў Еўропы. За час марской міграцыі лічынкі растуць, і да берагоў Еўропы прыплываюць мільёны маленькіх, празрыстых, шклопадобных вугаркоў. Як бачым, за час свайго жыцця вугры робяць дзве міграцыі: першая — лічынкі з акіяна перамяшчаюцца да берагоў мацерыка і ўваходзяць у прэсныя воды; другая — вугры, якія дасягнулі пэўнай велічыні і стадыі палавой спеласці, мігрыруюць назад у акіян на нераст. З дапамогай метак было ўстаноўлена, што хуткасць іх міграцыі дасягае ад 15 да 35—50 кіламетраў у суткі.

**Працяг. Пачатак у № 23.**

**Аляксандр КУРСКОЎ, кандыдат біялагічных навук.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма".**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 844. Падпісана да друку 14. 06.1993 г.**